# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 4 (1654) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 24 СТУДЗЕНЯ 1988 г. ЦАНА 12 зл.



Фота Л. Тарасэвіча.

Яшчэ 15-17 гадоў таму назад у Коматаўцах і Баброўніках моладзь збіралася вечарамі на вуліцы пры чыёй-небудзь хаце, стоячы і седзячы на лавачках, спявала песні. Што за прыгажосць была! Хацелася стаяць і слухаць!

Цяпер не пачуеш спеву на вёсках.

Цяпер стала мала людзей, паявіліся пустыя хаты. „Усходняя сцяна" заціхла і змарнела.

У Лужанах было каля 80 гаспадароў. Асталося іх толькі некалькі.

У Баброўніках, адной з большых вёсак, раней гаспадары трымалі шмат быдла, і ў вёсцы было яго каля 150 галоў. Цяпер — толькі 11. У вёсцы цяпер адны пенсіянеры і толькі каля 10 сялян-рабочых.

У меншых вёсках, у якіх было па 15-20 гаспадароў, як Габяты, Нарэйкі і Даўнева, засталіся старыя. Сапраўдных гаспадароў зусім няма. Няма гаспадароў і ў вёсцы Пераходы, а было іх больш дзесяці. Яшчэ неяк трымаюцца Меляшкі і Белявічы. З гэтых вёсак шмат людзей працуе на прадпрыемствах і ва ўстановах Гарадка (і не толькі Гарадка), хоць яны таксама маюць гаспадаркі. І ў іншых вёсках двухпрафесіяналы — рабочыя і адначасова сяляне апрацоўваюць зямлю. Ім, наогул, добра паводзіцца, і яны нікуды выязджаць не збіраюцца.

Пакуль што ў Гарадоцкай гміне налічваецца 1100 гаспадароў, але гэта разам з тымі, што маюць па 0,51 га зямлі і знаходзяцца на пенсіі. А пенсіянераў-сялян у гміне цяпер 550, і лік іх няспынна павялічваецца.

У гміне толькі 140 гаспадароў, якія маюць прадаўжальнікаў сялянскай прафесіі. Значыць, не выходзіць нават па 4 гаспадары на адно салэцтва. Ды таксама няма ніякай упэўненасці, ці нехта з іх пасля смерці бацькоў не паедзе ў горад.

Дык што ж будзе з зямлёй? Хто яе будзе апрацоўваць? Хто будзе забяспечваць горад сельскагаспадарчымі прадуктамі?



## У ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЕ (2)

Аказваецца, што ў Гарадоцкай гміне будзе радзіць уся зямля. Будзе каму ёю заняцца. Існуюць там 4 сельскагаспадарчыя кааператывы: у Лужанах, у Зубрах, Мастаўлянах і Калодным. Кааператывы пабудавалі дамы гарадскога тыпу, з усімі выгадамі. Жыллёвы камфорт на вёсцы стрымлівае людзей ад выезду ў горад, а часамі і прываблівае. На жаль, не мясцовых, а з іншых ваяводстваў, нават з цэнтральных.

Сельскагаспадарчы кааператыў у Лужанах, з сядзібай у Баброўніках, не меў бы людзей, каб не было там пабудаваных дамоў — аднаго ў Лужанах на 8 сем'яў, і двух у Баброўніках па 16 сем'яў. У Гарадоцкай гміне не знайшлося ахвотных працаваць у кааператыве, хоць былі запэўнены добрыя жыллёвыя ўмовы. Прыйшлі людзі з іншых ваяводстваў і тут працуюць.

Сельскагаспадарчы кааператыў у Зубрах мае тры жылыя дамы на 46 сем'яў, і таксама там у асноўным людзі з па-за Беласточчыны. І ўжо там не беларуская, а польская мова з'яўляецца дамінуючай. Пачалі спольшчвацца гэтыя мясцовасці. Падобная сітуацыя ў Мастаўлянах і Калодным.

Гэтыя 4 сельскагаспадарчыя кааператывы маюць многа машын, вырошчваюць параўнальна добрыя ўраджаі, вышэйшыя, чым у індывідуальных гаспадароў. Індывідуальныя гаспадары атрымалі ў 1987 годзе ў сярэднім у гміне па 24 цэнтнеры з аднаго гектара 4-ох асноўных зерневых культур, а кааператары — больш 30. У гміне прададзена збожжа дзяржаве 5.410 тон, у тым ліку 1490 тон выпрадукавана аднаасобнымі гаспадарамі.

Спомненыя 4 сельскагаспадарчыя кааператывы знаходзяцца ва ўсходняй зоне і ім пад сілу апрацоўваць усю зямлю, якую пакінулі і яшчэ пакінуць шматлікія гаспадары. А вось у заходняй частцы гміны апрацоўкай усёй пакінутай сялянамі зямлі займецца Дзяржаўнае сельска-

(Працяг на стар. 4)

**ПОГЛЯДЫ**

## НЕ ВЫБІРАЦЬ ФІГУРАНТАЎ

У сувязі са справаздачна-выбарнай кампаніяй, якая працягваецца ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве, прапаную ўнесці пад разгляд наступныя справы:

— будучае Галоўнае праўленне павінна заняцца стварэннем эканамічнай базы для дзейнасці Таварыства, каб яно трымалася не на датацыях, а на сваіх грашах;

— неабходна стварыць выдавецтва кніжак нашых пісьменнікаў, без чаго не можа быць гутаркі пра развіццё беларускага літаратурнага жыцця ў нас;

— трэба арганізоўваць падрыхтоўку інструктарскіх кадраў для мастацкай самадзейнасці, якая часта знаходзіцца на вельмі нізкім, амаль прымітыўным узроўні.

Выбары кандыдатаў у члены Галоўнага праўлення Беларускага таварыства павінны адбывацца на раённых канферэнцыях так, каб не выбіраць фігурантаў, аб якіх вядома, што нічога рабіць не будуць, але затое яны вельмі любяць, каб выбіралі іх і саджалі ў прэзідыум.

Кастусь Сідаровіч

# КОЛЕР СПАКОЮ І ЗГОДЫ

Як дагэтуль, мала каго я хваліў у „Ніве“. Скажа хто: глянь-це, Грышка Мароз падлізваецца ўжо! А гэта няпраўда. Хто варты пахвалы, такога трэба хваліць.

Быць добрым лекарам ці добрай медсястрою — мала ўсё ведаць пра хваробы. Трэба яшчэ і любіць хворага. Гэта чалавек, а чалавеку трэба ласкі, сэрца, што і дапамагае яму вылечыцца часам не менш, чым лекі. Такім добрым нашым доктарам лічым мы Зофію Штылер і медсясцёр Марысю Дзенісюк і Галіну Пліс. Працуюць яны ўжо здаўна ў пункце аховы здароўя ў Новым Беразове. Працы ім, вядома, хапае. Аднак не чуваць, каб яны наракалі ці апускалі рукі. І хто толькі да іх не прыходзіць са сваімі бедамі-хваробамі: і старыя, і малыя, і маладыя. Пані доктар знаходзіць час і на пару слоў цёплай гутаркі, выслухае і паспачувае, кожнаму добрае слова знаходзіць. У яе кабінеце адчуваеш сябе, як дома, у сям'і. Гэта надта важнае і, на жаль, усё больш рэдкая ў грамадскім жыцці з'ява.

Каб было больш такіх лекараў і медсясцёр, дык, можа, і хворых на гэтым нашым нецікавым свеце было б меней?... І жыццё наша не было б такім панурым, поўным незадаволенасці. Зачаста верх бяруць у нас нервы і злосць, а гэта першыя прычыны ўсялякіх хваробаў.

Людзі ў белых халатах. Белы колер — гэта колер спакою і згоды.

Дзякуем ім за сэрца і спагаду, і зычым усяго ім добрага!

**Грыша Мароз**

## ПУСЦЯЦЬ, ЦІ НЕ?

Калі будзе ездзіць аўтобус ПКС у Агароднікі, што ў Бельскай гміне? Гэта забытая вёска, куды няма як даехаць. Калісьці вінавата была дрэнная дарога ад Відава, балота, але ж цяпер там прыгожая жвіроўка! Былі ўжо чуткі, калі яшчэ рабілі гэтую жвіроўку, што пусцяць ужо аўтобус праз Відава у Агароднікі і Локніцу, Галады і Бельск. А дагэтуль вось не пусцілі. У Відава пачаў ездзіць МПК, людзі прыходзяць з Агароднік, каб паехаць у горад. Гавораць: „Ці мы ўжо найгоршыя? У солтыса свой самаход, яму галава не баліць, ці жыхар даедзе“. З Сямяціч аўтобусы ездзяць усюды, дык чаму ў Бельску не падумаюць аб гэтай вёсцы? Многа аўтобусаў ездзіць за Бранск, па ўсіх вёсках, чаму аўтобусы не заедуць і ў Агароднікі?

**Андрэй Гаўрылюк**

## ПАРАДАК У ВІДАВЕ

У Відаве пабудавалі новы прыпынак МПК, акуратны. Солтыс Аляксандр Сцяпанаў расказаў мне, што ва ўсіх работах па ўпарадкаванні камунікацыйнага вузла шмат папрацавалі Мікалай Калішэвіч, Аляксандр Сцяпанаў, Мікалай Белаказовіч, Іван Паўлючук, Андрэй Ігнатовіч, Хведар Гаўрылюк, Пятро Бобель, Іван Белаказовіч, Мікалай Крылоў. (аг)

## ДАЙЦЕ ЦПН!

Можна мець свой трактар і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Але імі не будзеш карыстацца, калі не будзе паліва, алею, заменных частак.

У Крынкаўскай і Шудзялаўскай гмінах адразу пасля лета стаяла амаль уся сельскагаспадарчая тэхніка. Сяляне па 20 км і больш ездзілі па паліва ў Міхалова, Гарадок, Саколку, але і там не заўсёды яго атрымоўвалі, хоць мноства трацілі на дарогу, на даезд да ЦПН і назад дадому.

Раней гаспадары Шудзялаўскай і Крынкаўскай гмін карысталіся ПГРаўскім ЦПНам у Крынках. Тады ўсім было добра. Зразумела, магло б быць яшчэ лепей, калі б і алей, і патрэбныя часткі, і нават смар можна было купіць на месцы. Але па іх трэба было ехаць у СКР у Слойку. А пасля зусім пагоршылася справа. Крынкаўскаму ПГРу па нейкіх там параграфах забаранілі прадаваць паліва індывідуальным гаспадарам. І вось цяпер вельмі цяжкая сітуацыя для сельскагаспадарчай тэхнікі. Няма дзе купляць паліва, па яго трэба далёка ездзіць. Найбольш ашчадны выхад з гэтай сітуацыі — пабудаваць у Крынках новы ЦПН. У гэтай справе выступаў на сесіі ВРН радны з Крынкаўскай гміны Уладзімір Жамойда. З падтрымкай яго выступіў і другі радны Вацлаў Пуль. Але праблема існуе далей.

**Міхась Хмялеўскі**

# РАДАСЦЬ, АД ЯКОЙ МАЛАДЗЕЕШ



„І дзе толькі няма нашых беларусаў!“ — дзівіцца мой субяседнік ды ківае галавою. Размаўляю я з Аляксандрам Сінякевічам. Яму восемдзесят гадоў, нарадзіўся ён 7 студзеня 1907 года ў Дубінах, што на Гайнаўшчыне.

У вайну 1914 г. яму было сем гадоў. Вядома, як і мноства іншых тутэйшых беларусаў, яго бацькі рушылі тады ў трагічнае „бежанства“, уцякаючы ад немцаў. Заехалі аж у Маскву і там спыніліся.

— Жылі мы, — успамінае А. Сінякевіч, — на Сярэднемяшчанскай вуліцы Закрэстаўскай Заставы, у доме Плухіна пад чатырнаццатым нумарам. Мяне паслалі ў школу. Скончыў яе ў 1918 годзе. Тады бацька сказаў: вайна закончылася, а сын закончыў школу, значыць час і пара вяртацца дахаты, у сваю Беларусь.

Вярнуліся ў 1919 годзе, прыехалі ў Гайнаўку, пасяліліся. Часы былі неспакойныя: улада змянялася — раз польская, раз літоўская (бо мелася тут быць Літва), то з'яўляліся прадстаўнікі беларускай улады... Праходзілі ўсякія вайсковыя часці і было трохі страляніны. Нарэшце ўсё неяк улеглося і настала Польшча. Я пайшоў на работу, вядома, у тартак. Быў дваццаць першы год. Сам не думаў, што прапраблю тамака аж паўвеку з „гакам“.

Ажаніўся з Насцяй Сакоўскай са Скупава. Пасыпаліся дзеці, нарадзіліся дочкі, мелі мы іх тры: Марыю, Ніну і Таццяну. Цяпер у нас трох унукаў і тры ўнучачкі, адзін праўнук і дзве праўнучкі. Мы з жонкаю жывем на пенсіі. Часамі, у свята якое, калі ўся наша сям'я разам з'едзецца ды збярэцца, дык мне тады столькі радасці, што адчуваю сябе неяк вечна маладым і зусім не думаю пра старасць.

Аляксандр Сінякевіч за доўгія гады сваёй працы выхаваў таксама нямала добрых маладых спецыялістаў.

**А. Гаўрылюк**

## КАБ ХОЦЬ ТЫЯ ПЕСНІ З „НІВЫ“...

Пішa ў „Ніву“ адна настаўніца, што няма беларускага спеўніка. Гэта няпраўда. Я сама завезла такі спеўнік Валянціне Дудзе з Дашоў.

Пані настаўніца, калі вас цікавіць, дзе ўзяць беларускі спеўнік, то звярніцеся да пісьманосца Мікалая Панфілюка з Дубіч-Царкоўных. Акрамя спеўнікаў, ёсць і беларускія кружэлкі. Я маю на думцы асабліва адну кружэлку (пласцінку, інакш кажучы) з цуднымі песнямі амерыканa-беларускага песняра Данчыка (Багдана Андрусішына). Называецца яна: „Я ад вас далёка“. У гэтай кружэлцы песні: „Не шукай“, „Калыханка“, „Белавежская пушча“, „Каханая“, „А ў полі вярба“, „Мой родны кут“, „Бярозка“, „Лянок“, „Вы шуміце, бярозы“, „Перапёлачка“, „Зорачкі“.

Праўда, беларускіх кружэлак зусім мала. Але, так думаю, каб мы хоць тыя песні, што „Ніва“ публікуе, умелі прыгожа заспяваць, то ўжо не было б бяды...

**М. П.**

# ЗА НАВУКАЙ І ПРАЦАЙ

## ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА

Гітлераўскія захопнікі, адкінутыя ад Масквы, летам і зімою 1942 года рваліся на поўдзень, да Сталінграда, а фактычна — да прыкаспійскай нафты. Краіна да крайнасці напружвала свае сілы: „Усё для фронту!“ „Усё для перамогі!“ Гэтыя лозунгі сталі нормай штодзённага жыцця і працы. Таксама было і ў дзіцячым доме спецыяльнага прызначэння, які абсталяваўся канчаткова ў Каракуліне, на берагах шырокай ракі Кама.

— Ніколі не забуду, як мы нарыхтоўвалі сабе дровы!

Там, дзе мы жылі, лесу зусім не было, — гаворыць Генрык Малышка. — Вугалю таксама нам не пастаўлялі. А варыць і абаграваць нечым трэба ж было. Тры будынкі, а ў іх звыш 200 чалавек, малых дзяцей, пры 40-градусных маразах...

А па Каме, асабліва ранняй вясною, з грукатам і трэскам плылі разам з ільдзянымі крыгамі разбітыя плыты з прыуральскіх соснаў. Такое дабро, і праходзіць міма, проста пад носам! Вось і ўзнікла ідэя пакарыстацца гэтым дрэвам.

— Хлопцы, будзем бярвенні лавіць у Каме!

— Выязджалі мы за дзесяцьпятнаццаць кіламетраў уверх па Каме, недзе аж пад Тарасава, — апавядае мне Генрык Малышка. — Вада шуміць, лёд трашчыць, а сярод гэтага пякельнага бяздоння імчацца на хвалях, б'юцца аб бераг даўжэзныя бярвенні. Як іх злавіць, як іх спыніць? Мы аднак рызыкавалі — і гэта нам удавалася!

Рамуальд Зайкоўскі таксама кажа, што на ўсё жыццё запамятаў гэтыя юнацкія прыгоды:

— Кама — рака шырокаводная. Разлівалася на супрацьлеглы бераг. Зімой, на саракаградусным марозе, яна поўнасцю замярзала. Тады ездзілі мы па Каме, як па гарадскім асфальце. Калі, аднак, лёд сплываў, дык разам з лёдам плылі бярвенні з разбітых плытоў. Мы ў Каракуліне мелі ўласную лодку. Я, Малышка, Лясоцкі, Шмайда, Станішэўскі — адным словам, хлопцы са старэйшай групы, сядалі на гэтую лодку, бралі басакі, сякеры і ручныя пілы ды пачыналася рызыкоўнае паляванне на нарыхтоўцы дроў на лета і на зіму. І ўявіце сабе, — заўважыў цяперашні палкоўнік, — што нічога страшнага ні з кім тады на Каме не здаралася. І ўвогуле за цэлы час прабывання ў Каракуліне толькі адна дзяўчынка з нашага дзіцячага дома, Рая Кардаш з Заблудава, утапілася ў Каме. Але гэта было пры іншай нагодзе... А тады, да гэтай нарыхтоўкі дроў, ніхто сілком нас не прымушаў. Кожны з нас сам хацеў прадэманстраваць сваю адвагу.

Дзяўчынкам таксама не заставалася замнога свабоднага ад вучобы часу. Асабліва летам, калі прасторныя дзетдомаўскія агароды зарасталі пустазеллем, або ў жніво, калі трэба было снапы састаўляць у дзесяткі. Данка Свідзэрская (цяпер па мужу Ліпская) ўспамінае:

— Кожная з нас мела прапалоць сваю дзялянку ў дзень. Адсюль-дасюль і годзе. Дырэктар заўжды паўтараў нам вядомую тады прымаўку: „Кто не работает, тот не ест!“ І паскардзіцца няма каму, бо мамы няма і ці жыве яна недзе там далёка, у Беластоку, калі гітлераўцы так люта адносяцца да тых, хто застаўся пад акупацы-

ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ




Верачка была адна ў сваіх бацькоў. Маці і бацька рабілі ўсё, каб яна не перамучылася. Самі прыбіралі ў хаце, мылі вопратку, а Верачка-сінявочка хадзіла на танцы, шпацыравала з сяброўкамі і сябрамі па парку. Дзяўчына была прыгожая, ды беларучка і эгаістка.

Аднойчы Вера пазнаёмілася з Колем. Коля быў родам з вёскі, у горадзе працаваў электрыкам. Колі спадабалася дзяўчына, і пачалі яны штораз часцей сустракацца. Спачатку ў парку і на танцах, а пасля ў доме Веры. Усе былі ўпэўненыя, што маладыя пажэняцца.

Аднойчы Вера адна пайшла ў кіно. Побач з ёю сеў старэйшы мужчына, год пад сорак. Ён часта пазглядаў на яе, урэшце нясмела абняў і спытаў: „Як цябе завуць, сінявокая? Ты прыгожая. Валасы ў цябе, як малако, і ўвогуле ты сама, як кветка, прыгожая“. Вера адкінула яго руку і злосна прашаптала: „Адчапіцеся, дзядзька! У мяне ёсць нарачоны, а вы бабнік!“ „Даражэнькая, чаго ты злуешся? — саладка шаптаў мужчына. — Ты мне падабаешся. Кажаш, у цябе нарачоны, а дзе ён цяпер?“ „Ён паехаў да бацькоў капаць бульбу!“ — злосна адазвалася Вера. „Дзяўчыну прамяняў на нейкую бульбу! Гэта хамства. Ён павінен ногі твае цалаваць і цяпер быць з табою. Я такой прыгожай дзяўчыны ніколі не кінуў бы“.

Вера перастала глядзець фільм і пачала разглядацца па зале. Усе пары сядзелі абняўшыся. Вера пачала злавацца на Колю. „Сапраўды, чаго ён паехаў бульбу збіраць? Мог бы быць са мною. Бацькі самі пазбіралі б“, — падумала яна.

Мужчына зноў абняў Веру. Яна прытулілася да яго, ён пацалаваў яе. У той момант скончыўся фільм, усе пачалі выходзіць з залы. Вера з мужчынам выйшлі абняўшыся. „Я называюся Вера“. „Я — Юзак“.

Так яны ішлі і маўчалі. Раптам Юзак сказаў: „Гэта шчаслівы для мяне вечар“. „Чаму?“ „Я цябе сустрэў, мой коцік. Ты — мая радасць. Я да гэтай пары быў такі нешчаслівы. Ведаеш, да мяне прычапілася дзяўчына. Хадзіла за мною, як цень, і я ажаніўся з ёю. Цяпер я глядзець на яе не магу. Яна мне абрыдла. Яна пачала нават з мужчынамі вадзіцца. Цяпер цяжарная ходзіць, і я нават не ведаю, ад каго. Я яе з хаты выганю, а ты пойдзеш да мяне і будзем жыць“.

Дзяўчына слухала Юзка і рашыла быць з ім назаўсёды.

У нядзелю наведаў яе Коля. „Ты чаго прыйшоў?! — злосна спытала дзяўчына. — У чацвер ты паехаў бульбу збіраць, а я адна пайшла ў кіно. Аднак адзінокай я там не была. Пазнаёмілася з добрым чалавекам. Ён мне больш спадабаўся, чым ты. Ён пацалаваў мяне адразу, а не так, як ты“. „Калі так, бывайце назаўсёды! — сказаў анямеўшым Верыным бацькам Коля. — Я кахаў вашу дачку, але цяпер не хачу яе ведаць. Бывай, Вера. Я думаў, што ты кахала мяне, а ты проста з мяне смяялася“.

Коля выйшаў, а Вера сказала бацькам: „Я пазнаёмілася з багатым мужчынам. Як ісці замуж, то за багатага“.

Вера з Юзкам сустракаліся штораз часцей, а Юзак аднак ніколі не паявіўся ў хаце Веры. Юзак біў цяжарную жонку, і тады Зося ўцякла да сваіх бацькоў. Юзак падаў на развод, на што бедная жонка ахвотна згадзілася.

Вера пачала жыць у Юзка. Праз некалькі месяцаў нарадзілася дачушка. Хрысціны былі вельмі гучныя. Тры дні гулялі, нават аркестр быў, як на якім вяселлі, маладыя жылі аднак далей без вянца. „Чаму не бярэце шлюбу?“ — пыталі суседкі ў Веры. „У нас дзіця і мне як адзінокай маці дзяржава плаціць больш грошай“. Вось да чаго дайшло! Цяпер дзеля грошай нават шлюбу браць не хочуць!

Зоська нарадзіла сына і нават не схацела падаваць на аліменты. „Няхай ён падавіцца імі! Я сама выхаваю дзіця, ад такога бацькі нічога не хачу!“

Юзак паехаў у санаторый падлячыцца. Свякруха спачатку добра адносілася да Веры, а пасля пачала сварыцца. Юзак доўга не вяртаўся, аж урэшце-рэшт выявілася, што ён там ужо працуе, наняў кватэру і не сніцца яму вяртацца.

Свякруха выгнала Веру. Дзяўчына з бацькамі і міліцыянерамі прыехала забраць свае рэчы, але свякруха не дала: „Што гэта жанчына хоча адсюль узяць? Яна ж тут нават не прапісана! Я яе нават не ведаю!“ Міліцыянеры параілі падаць у суд на каханка і яго маці, а калі ім присудзяць аддаць усе прывезеныя Верай рэчы, тады міліцыя дапаможа ўсё забраць. „Чаму ты, дачушка, так зрабіла? Трэба было прапісацца“, — дакаралі Веру бацькі. „Ай, не гаварыце! Проста ў мяне не было шчасця!“

Так і жыве Верка ў бацькоў і чакае свайго Юзка. Усё думае, што ўспомніцца яму шчаслівыя хвіліны.

**Аўрора**

ПА РОДНАЙ ЗЯМЛІ. У Масеве ў глыбі Белавежскай пушчы. Усе дрэвы тут растуць, вядома, на лес гледзячы...

Фота М. Гайдука.

яй... Аж страшнавата было глядзець кінахроніку, калі паказвалі гэтыя рэчы ў кіно...

Кіно было толькі ў горадзе. Кінафільмы — па білетах. Ой, як хацелася паглядзець нейкі фільм! Толькі адкуль узяць нават тую капеечку, калі ніякіх грошай ніхто ім не даваў. Генрык Букерт кажа, што зрэдку ўдавалася ім папрасіцца ў білетнага кантралёра, каб прапусціў іх у кіназалу, іншым разам даводзілася займацца дробненькім гандлем, каб раздабыць некалькі капеек.

— Навалачэм, бывала, пшаніцы з нарыхтовачнага збожжавага склада, — апавядае даўнейшы каракулінец, які выдзяляўся сярод сяброў асаблівай хітрасцю да ўсяго, што было забаронена ў афіцыйным жыцці. — Змелем неяк гэтую пшаніцу на муку, а наша кухарка напячэ нам смачных бліноў. Дык мы ў школе прагандлюем гэтыя бліны на капейкі ў кіно.

Генрык Малышка з некаторымі іншымі сябрамі знайшоў болей надзейны і высакародны спосаб на забеспячэнне сваіх культурных патрэб. Паслухайма яго:

— Быў з намі Збышак Мак — вельмі здольны хлопец, крыху старэйшы ад нас, проста мастацкая душа. Дарэчы, пасля вайны ён стаў вядомым рэжысёрам. Нейкі час працаваў, між іншым, і ў беластоцкім драматычным тэатры. Цяпер недзе ў Польшчы, на жаль, не ведаю дзе. Дык ён яшчэ ў час нашага прабывання ў Сарапуле напісаў вострасюжэтную п'есу, зразумела на рускай мове. З гэтай п'есай выступалі мы найчасцей у кіно, бо там быў такі звычай, што перад пачаткам фільма наладжвалася мастацкая частка, найчасцей агітацыйнага характару. Платай за нашу мастацкую прадукцыю быў свабодны ўступ у кіно, проста мы заставаліся на кінасеансе.

У Каракуліне таксама існавала культурна-асветная дзетдомаўская секцыя. Няшмат, аднак, часу заставалася тут на разгортванне гэтага роду дзейнасці. Хлопцы і дзяўчаты, асабліва старэйшыя, заняты былі школай і працай на гаспадарцы. Крыху пазней парассылалі іх па школах для прафесіянальнай падрыхтоўкі, а некаторыя старэйшыя хлопцы апынуліся ў арміі, у польскай арміі, якую на тэрыторыі Савецкага Саюза арганізаваў найперш генерал Уладзіслаў Андэрс, а пасля — палкоўнік Зыгмунт Берлінг.

Гэтая справа мяне асабліва зацікавіла, дык звярнуўся я да маіх сяброў, даўнейшых „каракулінцаў“, за паясненнямі. Генрык Малышка кажа:

— Не памятаю ўжо, як, але ведаю напэўна, што яшчэ ў 1942 годзе дайшла да нас вестка, што ў Куйбышаве знаходзіцца штаб толькі што арганізаванага Войска Польскага. Гэта было тое, чаго мы якраз чакалі. Я, Збышэк Мак і Шмайда напісалі ў гэты штаб, што мы, польскія дзеці з Беластока, знаходзімся ў дзіцячым доме ў Каракуліне, і просім, каб прынялі нас у школу „арлянят“, што мы хочам быць лётчыкамі. Што ж, — усміхнуўся пан Генрык, які пасля вайны стаў настаўнікам танцаў, — тыповыя юнацкія мары...

Ліст ад каракулінскіх хлопчыкаў хутка трапіў у штаб Польскай Арміі.

— Доўгі час захоўваў я ў сябе ў сямейным архіве тэлеграму з подпісам генерала Велігурскага, які паведамляў нам, што пісьмо наша дайшло да камандавання Польскага Войска і што яны нас у бядзе не пакінуць. І сапраўды, — працягвае свой расказ Генрык Малышка, — праз нейкі час завітаў да нас польскі капітан. Аднак дырэктар Пеўзнер адпусціў толькі Збышка Мака. Ён быў на два гады старэйшы за нас. А што было далей, дык аб гэтым наступным разам.

**Віктар Рудчык**

# Зорка

## Старонка для дзяцей




Так выглядалі на мінулагоднім конкурсе беларускай песні для школьнікаў дзеці са школы ў Кляшчэлях разам са сваёй настаўніцай Яўгеніяй Такаюк.

А ці ўсе дзеці ўжо падумалі аб удзеле ў сёлетнім конкурсе беларускай песні, які адбудзецца вясною? Час ужо падбіраць прыгожыя песні і развучваць іх. Жадаю поспехаў.

Фота Я. Чэрнякевіч.

## Для самых маленькіх

Васіль Хомчанка

### На лыжах

У нядзелю ўсе ўсталі пазней, бо тату і маме не трэба было ісці на службу, а Сяргейку — у прадшколле. Сонейка свяціла ў вокны, на сцяне каля Сяргейкавага ложка трымцеў жоўты сонечны зайчык. Сяргейка ляпнуў рукой па гэтым зайчыку. Але той не ўцёк, а ўскочыў на Сяргейкаву далоньку.

— Ох і дзянёк жа! — узрадаваўся тата.

— Шэсць маразоў сёння, — сказаў Сяргейка. — Па радыё гаварылі.

— Градусаў, — папpавіла маці.

Учора тата абяцаў пакатацца з Сяргейкам на лыжах. І хлопчык сёння ўстаў першы, памыў халоднай вадой твар, шыю і нават вушы. І адразу надзеў лыжны касцюм.

Парк, дзе яны збіраліся катацца, быў недалёка. Пайшлі туды пехатою. Сяргейка, трымаючыся за татаву руку, ішоў радасны, подбегам. На плячы ён нёс свае новенькія лыжы.

Каля парку сустрэўся бацькаў знаёмы. Ён павітаўся і спытаў:

— Куды сына вядзеш?

— Гэта я вяду тату, — сказаў Сяргейка. — Будзем на лыжах катацца.

— Вунь яно што! — здзівіўся татаў знаёмы. — Ну, тады вядзі, катайцеся на здароўе.

У парку Сяргейка і тата сталі на лыжы і паехалі. Сяргейка ўперадзе, тата за ім.

„Шых-шах, шых-шах“, — слізгалі па снезе лыжы. Сняжок бялюткі, мяккі — лыжы самі бягуць. Так і ўвесь парк праехалі. Сяргейка спыніўся і і спытаў у таты:

— Ну як? Стаміўся?

— Не, — адказаў тата.

— Тады давай вунь з той горкі з'едзем.

— Давай, — згадзіўся тата.

Яны сышлі з лыжні і па цаліку падняліся на пагорак.

— Тата, ты першы едзь, а я за табою.

— Добра.

Тата адштурхнуўся палкамі і паехаў уніз. Спыніўся ў лагчыне на роўным месцы.

— Чаго ж ты стаіш? — крыкнуў ён Сяргейку.

А хлопчыку і хацелася паехаць так, як тата, і было боязна — горка крутая. Але ён перасіліў страх, заплюшчыў вочы, ступіў адзін крок, другі, а там лыжы самі панеслі яго, як птушку. Амаль ужо спусціўся з горкі, ды лыжа за лыжу зачапілася, і Сяргейка кульнуўся. Аж пыл снежны закурэў. Снегу насыпалася за каўнер, у рот, у вушы. Падбег тата і хацеў памагчы ўстаць, але Сяргейка закрычаў:

— Я сам, я сам!

Падняўся, абтрос снег і сказаў:

— А здорава я ехаў?

— Як страла ляцеў, — пахваліў тата.

— Гэта не я ўпаў, а лыжы самі заблыталіся. Чэснае слова.

Яны яшчэ раз узышлі на горку, тата зноў першы з'ехаў, Сяргейка за ім. На гэты раз і ён не ўпаў.

— Ура! — закрычаў Сяргейка.

А сонейка свяціла хораша, пахла хвояй, снегам і чамусьці разрэзаным кавуном. Тата сказаў, што гэта так мароз у сонечны дзень пахне.

Потым яны зайшлі ў павільён, паставілі ў куце лыжы, селі за столік. Тата купіў па шклянцы гарачага чаю і тры піражныя на двух. Падсілкаваліся і зноў пайшлі катацца! Каталіся, аж пакуль Сяргейкавы ногі не стаміліся. Ён так і сказаў тату: „Гэта не я стаміўся, а ногі!“ Тата павёў Сяргейку дамоў.

Як і раніцой, кожны нёс свае лыжы сам. Дарогай Сяргейка сказаў:

— Тата, табе цяжка такія вялікія лыжы несці. Дай іх мне, а ты мяне на рукі вазьмі.

Тата так і зрабіў.

Дома іх ужо чакала маці абедаць. На стале стаялі талеркі з гарачым супам, а ў шклянках быў салодкі вішнёвы кампот.

## 21 студзеня — Дзень бабулі

М. Алібаеў

### Бабуля і ўнучка

Ходзяць ранкам па бульвары
Бабуля і ўнучка.
Вельмі ж дзіўная з іх пара —
Бабуля і ўнучка.

Бабка скажа: — Ты глядзі,
Не мерзні, малая!
Унучка скажа: — Пасядзі,
Ты ўжо слабая!

Ці дзяўчынка там вядзе
Бабулю за ручку,
Ці бабулька там вядзе
Маленькую ўнучку?

*Пераклад з рускай мовы*

*А цяпер — заданне для ўсіх. Вазьміце прыгожы ліст паперы, можа быць з блоку, і намалюйце партрэт сваёй бабулі. У каго малюнак будзе прыгожы — прышліце ў „Зорку“. З усіх малюнкаў „Зорка“ выбярэ пяць найпрыгажэйшых на „зорчыну“ выстаўку, а аўтарам малюнкаў будуць высланы беларускія кніжкі.*

---

### Майстар-ламайстар

Бацькі купілі сыну
Пажарную машыну.
Заваднуюю, новую,
Нібыта жар, чырвоную.
Каб пажар на ёй тушыць,
Трэба дзверцы адчыніць.
Ды як не стараецца,
Яны не адчыняюцца.
— Во, — падумаў, — будзе толк:
Узяў адвёртку, малаток,
Пласкагубцы, шыла,
Вострае зубіла.
І праз паўгадзіны
Не было машыны...
Тата выглянуў з пакоя:
— Чаго плачаш, што такое?
Ну, давай, дапамагу,
Можа, я сабраць змагу.
Дзесьці праз гадзіну
Ён сабраў машыну.
Зноў стаіць — не новая,
І не чырвонакаляровая...
— Што ж, сядай, сынок, ямчэй
І запомні, Пашка,
Што ламаць заўжды лягчэй,
Аднаўляць вось — цяжка.

Уладзімір Мацвеенка

### Свеціць сонейка

Сёння зноўку на двары
Сонейка смяецца,
Коцік з печы на акно
Сеў, каб тут пагрэцца.

У клубок скруціўся ён
Хвосцікам накрыўся,
Памурлыкаў, вочкі звёў,
І — у сон зваліўся.

Спіць шчаслівым ясным сном,
Спіць, як і ўсе дзеці...
А нам сонейка ў акно
Свеціць, свеціць, свеціць.

Сяргей Чыгрын



## ХОЦЬКІ-НЯХОЦЬКІ

Паміж хоцькі і няхоцькі
Толькі кладка слізкая.
Пакахаць бы мне Аўдоцьку,
Ды няхоцькі — нізкая!

Што мне дзеўкі? Лепей мёду
Набяру я ў ліпені.
Ды баюся пчол я з роду —
Міма ліпы клыпаю.

Дабракамі лес багаты
Трэба ўстаць да сонейка.
Ды няхоцькі бегчы з хаты
Ў росныя сасоннікі.

Хоцькі з лесу мне да мора,
Гул марскі паслухаю.
Але ў моры дужа мокра,
На канапе ж — сухенька.

Хоцькі б рыбка залатая,
Але дзіркі ў нераце,
Дзьмухаўцом я адцвітаю,
Можа, ўсё наперадзе?

Хоцькі мне пабачыць свету, —
Трэба коніка каваць!
Хоцькі тое, хоцькі гэта,
Ды няхоцькі хоцькаваць!

**Нэлі Тулупава**



Настальгія.

# НІЎКА



## У СУДЗЕ

Суддзя звяртаецца да падсуднага:
— Можаце давесці, што вы нявінны?
— Бясспрэчна, дайце толькі тэрмін.
— Згодны, даю пяць год.

## МАЛАДЗЕЙ ЗА СЫНА

— Кастусь, колькі на самай справе гадоў тваёй жонцы?
— Цяжка сказаць, але, па яе словах, выходзіць, што яна маладзей за нашага старэйшага сына.

## КІМ БЫЦЬ

— А ты кім хацеў бы стаць, калі вырасцеш, Міхаська? — пытае настаўніца ў малога вучня. — Касманаўтам? Архітэктарам? Дыпламатам?
— Дарослым, — сумна адказвае хлапчук.
— Дарослым? — здзіўляецца настаўніца. — Дык гэта ж не прафесія.
— Але затое бацькі кожны вечар лупцаваць не будуць праз вашы іксы ды ігрэкі.

## КОЦІК

Лісіца, што выйшла замуж за тыгра:
— Ну, цяпер трымайся, коціку!



Гаворыць гладка, а піша заікаючыся.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Чалавек прыйшоў ва ўстанову афарміць нейкую паперу. Не паспеў ён падняцца на другі паверх, як пакаўзнуўся і скаціўся ўніз па лесвіцы.
— Ого! — усклікнуў швейцар. — Я працую тут ужо трыццаць год і ні разу не бачыў, каб хто-небудзь так хутка аформіў свае паперы!

*

— Ты чула, што Марына і Альберт жэняцца?
— Ды ну?! А якое ж у іх было каханне!

*

— Эдна зусім не можа хадзіць у заапарк. Як толькі яна аказваецца перад клеткай з жывёлай, яна пачынае так нервавацца, што ў яе слёзы на вачах з'яўляюцца.
— Чаму?
— Яна не можа перажыць, што столькі прыгожых футравых вырабаў сядзяць у клетках без карысці!

З „Весніка Задрыпоніі"

## ХТО СТУКАЕЦЦА Ў ДЗВЕРЫ ДА МЯНЕ?

Такім пытаннем сустракае ўсіх новы электронны вартаўнік, распрацаваны ў аб'яднанні „Навукова-тэхнічная рэвалюцыя пераможа!" Дастаткова адказаць: „Свае!" — і дзверы аўтаматычна адчыняюцца.

## АНАНІМКА

Грамадзянін Ю. Каўпінскі жыве на сродкі вытворчасці.

## КЛЮЧЫ

Які нумар з'яўляецца дублікатам ключа з „хмаркі"?



З суседскага агародчыка

## ПА ЗАГАДУ СТАРШЫНІ

Камедыя „Дзядзька Багдасар", як ні дзіўна, у той вечар прайшла ў поўнай цішыні: ні смеху, ні нават усмешкі.
Пасля спектакля, калі засмучаны рэжысёр паспрабаваў высветліць прычыну такой дзіўнай цішыні, адзін з гледачоў сказаў:
— Старшыня нашага калгаса паехаў у райцэнтр, а нам даў наказ: „Сёння з горада прыедуць артысты. Вы павінны паводзіць сябе як трэба: сур'ёзна, культурна, арганізавана. Не дай Бог, каб хоць адзін з вас засмяяўся — скуру здыму!.."

# Курʼёзы

## СЭНДВІЧ ДЛЯ ЦЭЛАГА ГОРАДА

Назва шахцёрскага гарадка Іглесіяс на Сардзініі будзе занесена ў вядомую кнігу рэкордаў Гінеса. Але, як вядома, на старонках гэтага папулярнага выдання не прыводзяцца даныя аб здабычы вугалю ці выплаўцы сталі. Чым жа праславіліся тады на ўвесь свет яго жыхары? Прычынай гэтаму стаў сапраўды няўтольны апетыт дзесяткаў маладых хлопцаў, якія „ўзвялі" самы вялікі сэндвіч у свеце: яго даўжыня дасягае 456 метраў 30 сантыметраў. Справа была пастаўлена сур'ёзна — рэкорд зарэгістраваў пад апладысменты прысутных спецыяльна прыбыўшы на месца натарыус.
На прыгатаванне гэтага нават не „максі", а „мегасэндвіча", як яго празвалі газеты, пайшло 750 кг хлеба, 145 кг сыру, 130 кг вяндліны, 170 кг маянезу, 60 бутэлек таматнага соусу.




Не спі на лекцыях — званок праспіш.








Вазьміце чырвоны аловак і расфарбуйце тое, што лічыце патрэбным.